# Весткі й Паведамленьні

**інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

**Viestki j Paviedamleńni**

**Электронны адрас: *viestki@mail.com***

*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 11(657)**
**Лістапад 2020 г.**

# Змаганьне сьвятла



Абставіны патрабуюць тлумачэньня.

Галоўнае. Бальшыня беларускага грамадзтва ня хоча больш цярпець існуючага рэжыму, ягонай палітыкі і ягонага начальніка, які зьяўляецца ўзурпатарам улады. Людзі перасталі маўчаць і баяцца. Масавыя пратэсты па ўсёй краіне доўжацца ўжо трэці месяц і гавораць аб сур’ёзнасьці падзей і сьведчаць пра народную рэвалюцыю. Галоўнае патрабаваньне народа – Лукашэнка павінен сыйсьці, ягоная ўлада мусіць быць ліквідаваная.

Рэжым страціў падтрымку ў грамадзтве, улада абапіраецца толькі на сілавыя структуры і на адміністрацыю. Матывацыя паводзінаў Лукашэнкі – любымі спосабамі ўтрымацца ва ўладзе. Палітычная апора – на Пуціна і Расею.

Беларускія нацыянальна-дэмакратычныя сілы заблякаваныя рэжымам і выключаныя з актыўнага палітычнага працэсу. Яны не былі дапушчаныя і ня ўдзельнічалі ў выбарах, актыўныя беларускія палітыкі ізаляваныя за кратамі, шмат хто вымушаны быў зьехаць за мяжу, беларускія партыі існуюць, практычна, у падпольлі.

Цалкам адсутнічаюць беларускія СМІ, якія б адбівалі інфармацыю з гледзішча нацыянальных інтарэсаў і адлюстроўвалі б стан беларускай палітыкі і становішча нацыі.

Асаблівасьць сытуацыі ў тым, што, пачынаючы ад выбарчай кампаніі, на беларускім палітычным полі дзейнічаюць і пануюць дзьве прарасейскія сілы, якія знаходзяцца пад кантрольным уплывам Масквы і змагаюцца між сабой за ўладу ў Беларусі, апэлюючы да беларускага грамадзтва.

Першая сіла – гэта група ўлады Аляксандра Лукашэнкі. Другая – гэта група, створаная пад выбары (В. Бабарыка, В. Цапкала) і падтрыманая расейскім Газпрамам і ФСБ (плян Крамля). Гэтыя групы, не спатыкаючы на выбарах беларускага палітычнага супраціву, і, змагаючыся між сабою, робяць у Беларусі і на міжнародным узроўні ўсё, што хочуць.

Сытуацыйная перавага ёсьць на баку групы ўлады, але большая пэрспэктыва ў групы Газпрама-ФСБ, калі толькі ў гэтую вайну не ўмяшаецца самая магутная сіла – Беларускі народ. Аднак для гэтага народ мусіць мець сваю нацыянальную масавую палітычную арганізацыю (кшталту Народнага Фронту).

На сёньняшні дзень група расейскага Газпраму і ФСБ (гэта найперш прадстаўнікі Белгазпрамбанка – бацька і сын Бабарыкі, М. Знак, М. Калесьнікава плюс В. Цапкала, С. Ціханоўская, П. Латушка і іншыя) і тыя, што стаяць за імі, маюць пэўны ўплыў на ўдзельнікаў масавых пратэстаў і ўвесь час імкнуцца падпарадкаваць іх свайму кантролю, але ня ведаюць, як тое зрабіць, выкарыстоўваюць дзеля гэтага падстаўную ролю Сьвятланы Ціханоўскай. Толькі атрымліваецца кепска і часам бязглузда.

Група Газпрама-ФСБ працягвае дзейнічаць у парадыгме пляну Пуціна. Першае, чаго яны дамагаюцца, – гэта новых выбараў. (Толькі якія выбары пры Лукашэнку!) Прытым падкрэсьліваецца (Латушка і інш.), што выбары мусяць адбывацца па існуючым лукашысцкім заканадаўстве. А гэта значыць, што яны хочуць прапанаваць народу выбіраць новага дыктатара – прэзыдэнта з дыктатарскімі паўнамоцтвамі. На такіх выбарах Масква мяркуе правесьці сваю асобу ў прэзыдэнты Беларусі, і ўжо выбраная асоба навядзе патрэбны для Масквы парадак.

У стратэгічным пляне пуцінскі варыянт (варыянт з Бабарыкам і Цапкалам) можа аказацца фатальным для будучыні Беларусі, бо прадугледжвае захоп беларускай маёмасьці расейскім капіталам, адзіную (расейскую) валюту, працяг агрэсіі інтэграцыі і русіфікацыі.

Потым Масква хацела б пры дапамозе свайго новага стаўленьніка стварыць у Беларусі мінімум дзьве прарасейскія партыі і тады аб’явіць выбары ў парлямэнт па новым прапарцыйным выбарчым законе, які яны намерваюцца стварыць (гэта

*заканчэньне на бачыне 2*

# Змаганьне сьвятла

***заканчэньне з бачыны 1***

значыць выбіраць па партыйных сьпісах). Тое будзе абазначаць, што, практычна, ніхто зь беларусаў у парлямэнт увогуле ня трапіць, бо беларускія партыі Лукашэнкам ужо амаль зьнішчаныя, а новым прарасейскім адкрываецца дарога.

Гэта ёсьць плян захопу беларускага парлямэнта. Яны пра гэта часам нават адкрыта кажуць, відаць, спадзеючыся на наіўнасьць некаторых беларусаў.

Наступны ідэалягічна найважнейшы крок у палітыцы Масквы, пра які ўпарта, нібы нічога і нікога ня чуючы, паўтараюць адэпты групы Газпрам-ФСБ і створанай імі так зв. “кардынацыйнай рады”, – гэта пераробка Канстытуцыі 1994 году. Маскву цікавіць там рэальна толькі адно пытаньне – падвысіць статус расейскай мовы як мовы міжнацыянальных зносінаў (што запісана ў Канстытуцыі) да ўзроўню дзяржаўнай мовы. Гэта значыць зрабіць так, як было пры Лукашэнку і канчаткова ўгробіць беларускую мову.

(Зьнішчэньне мовы зрабіла б Беларусь таксама нацыянальна безабароннай перад агрэсіўнай палітыкай з боку Расеі, аслабіла б абарону сувэрэнітэту.)

Нашая пазыцыя Беларускага Нацыянальнага Сакратарыяту – Вольная Беларусь – грунтуецца на інтарэсах народа і Айчыны. Першым чынам павінна быць ліквідавана ўлада Лукашэнкі і ягоная прысутнасьць ва ўладзе. Народ і Айчына, пакуль кіруе вар’ят, знаходзяцца ў небясьпецы. Законы ня дзейнічаюць. Законнай магчымасьці ў народа зьмяніць уладу – няма. У такім разе народ, абараняючы свае жыцьцёвыя інтарэсы, сваю дзяржаву і сваё існаваньне, мае канстытуцыйнае права на рэвалюцыю і на ліквідацыю ўзурпатара любым спосабам: ад масавых пратэстаў да ажыцьцяўленьня выраку Народнага Трыбуналу. Задача стварэньня Народнага Трыбуналу ўжо пастаўлена.

Пасьля адхіленьня Лукашэнкі ад улады альбо Канстытуцыйным Судом, альбо Саветам Міністраў, альбо скліканым Сходам народных прадстаўнікоў, альбо Народным Трыбуналам – у залежнасьці ад абставінаў – асуджаюцца і адмяняюцца ўсе рашэньні, якія былі прынятыя ў выніку лістападаўскага дзяржаўнага перавароту 1996 году (калі Лукашэнка груба і незаконна паламаў дзеючую Канстытуцыю). Вяртаецца ў дзеяньне (натуральна і аўтаматычна) законная Канстытуцыя 1994 году і ўсё заканадаўства, зьвязанае з законнай Канстытуцыяй. Дэкрэты, указы, дамовы ўзурпатара адмяняюцца. Заканадаўства прыводзіцца ў норму паводле выпрацаваных правілаў.

Вызваляюцца з турмаў усе арыштаваныя і асуджаныя па палітычных матывах. Пераглядаюцца справы асуджаных за эканамічныя парушэньні. Праводзіцца люстрацыя і сьледзтва па дзейнасьці судзьдзяў. Судзьдзі, якія груба і сьведама парушалі заканадаўства і судзілі нявінных людзей па палітычных замовах, пойдуць пад суд.

Будуць арыштаваныя ўсе члены Цэнтральнай Выбарчай Камісіі начале з Ярмошынай і пачынаецца сьледзтва аб фальсіфікацыі выбараў.

Прызначаецца новы склад ЦВК Сходам прадстаўнікоў альбо іншым народным рэвалюцыйным ворганам.

Наступны этап. Аб’яўляюцца і праводзяцца выбары ў парлямэнт па мажарытарным законе (гэта значыць выбары па акругах), прынятым згодна Канстытуцыі 1994 году. Выбіраецца аднапалатны парлямэнт з 260 дэпутатаў. Парлямэнт выбірае ўрад (Савет Міністраў), разглядае пытаньне аб статусе прэзыдэнта, уносіць папраўкі ў Канстытуцыю і Закон Аб прэзыдэнце.

Пасьля канстытуцыйнага абмежаваньня паўнамоцтваў прэзыдэнта парлямэнт прызначае выбары прэзыдэнта.

Адначасна адбываецца перафарматаваньне на дэмакратычны лад усёй сыстэмы ўлады – судоў, пракуратуры, ворганаў адміністрацыйнага кіраваньня, ліквідуецца дыктатарская вэртыкаль, кіраўнікі выканаўчай улады ў вызначаных гарадах абіраюцца народам і г. д. Усё падрабязна расьпісана ў праграме “Вольная Беларусь” (якая была падрыхтаваная ў 2017 годзе палітыкамі і заканадаўцамі Беларускага Адраджэньня і абмеркаваная грамадзтвам).

У гэты ж час пасьля навядзеньня парадку ў пракуратуры і судах, узбуджаецца справа аб злачынстве супраць народа, якое было зроблена кіраўніцтвам і выканаўцамі міліцэйскай структуры ОМОН.

Узбуджаецца справа аб здрадзе дзяржаве і народу і аб злачынстве супраць народу Лукашэнкі Аляксандра Рыгоравіча (калі ён да гэтага часу застанецца яшчэ жывым).

Што даюць такія першыя зьмены ва ўладзе для Беларусі.

Найперш ліквідуецца аўтарытарнае самаўладзьдзе і робіцца немагчымай дыктатура ў краіне. Павялічваецца роля парлямэнту. Выбары па мажарытарнаму закону дадуць магчымасьць выбраць у парлямэнт прадстаўнікоў беларускага народу і абмяжуюць выбарчыя спадзяваньні маскоўскай агентуры, нават калі б яна пры дапамозе Крамля стварыла б тут прамаскоўскія партыі.

Узмацненьне заканадаўчага воргана і абмежаваньне паўнамоцтваў прэзыдэнта паспрыяе збалянсаванаму падзелу паміж заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладамі. Вернецца справядлівасьць у беларускае грамадзтва.

Немалаважна і тое, што парлямэнцкая сыстэма паспрыяе ўмацаваньню сувэрэнітэту краіны, бо на прэзыдэнта-дыктатара Масква была ў стане праштурхнуць свайго стаўленьніка, але 260 дэпутатаў парлямэнту ёй купіць ня ўдасца.

У цяперашнім становішчы трэба ствараць структуры і суполкі руху Вольная Беларусь (пакуль што схавана). Няхай яны множацца і разрастаюцца гарызантальна. Адначасна трэба ствараць абарону структураў (дружыну). У пэўным часе, калі рух пашырыцца, тады можа быць створаны выбраны Сойм руху, які прызначыць выканаўчы ворган Сойму і возьме на сябе рэальнае палітычнае прадстаўніцтва Беларусі.

Нельга цярпець каб групы прафанаў, агентуры і непрыхільнікаў Беларускай нацыі стваралі падстаўныя каардынацыйныя структуры і выступалі прадстаўнікамі беларускай народнай рэвалюцыі.

Першасныя палітычныя задачы Вольнай Беларусі на пачатку мусілі б выглядаць так:

– адхіленьне Лукашэнкі ад улады;
– вызваленьне палітвязьняў;
– вяртаньне законнай Канстытуцыі і заканадаўства 1994 г.;
– выбары ў парлямэнт.

Штодзённая дзейнасьць суполак Вольнай Беларусі можа быць разнастайнай. Але палітычныя задачы акрэсьленыя. Заўсёды трэба памятаць аб нацыянальнай салідарнасьці, падтрымліваць адзін аднаго і ўвесь народ, дбаць пра беларускую культуру, мову, песьні, традыцыі, гісторыю, шанаваць нацыянальныя сымбалі – Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня.

Трэба змагацца супраць сілаў цемры за сьветлую дэмакратычную Беларусь, прыхільную для людзей. І таму ўсе, хто з намі, – украінцы, расейцы, габрэі – дапамагайце беларусам. Ад вольнай Беларусі будзе шмат што залежыць і ва Украіне, і асабліва ў Расеі. Адчувайце сябе ваярамі сьвятла, бо і сапраўды, тут бітва йдзе паміж сьвятлом і цемрай, паміж свабодай і рабствам, паміж праўдай і хлусьнёй. Але праўда пераможа.

Слава Айчыне!
Жыве Беларусь!
*22 кастрычнік 2020 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# Новае выданьне "Беларусаў у ЗША" Вітаўта Кіпеля

*Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Выд. 3, дапрацаванае і дапоўненае. Мінск, Кнігазбор, 2020. 656 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 40)*

Прадстаўленая кніга дырэктара Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк) д-ра Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША" – трэцяе менскае выданьне знакамітай манаграфіі (папярэднія: Менск, 1993. і 2017; Нью-Ёрк 1999 (ангельская вэрсія)). Дасьледаваньне ў значнай ступені дапрацаванае аўтарам, дапоўнена актуальнымі зьвесткамі, а таксама шматлікімі фатаздымкамі.




Уступны нарыс, напісаны рэдактарам кнігі Натальляй Гардзіенка, прысьвечаны жыцьцю й дзейнасьці Вітаўта Кіпеля. Тэкст напісаны на падставе ўспамінаў амэрыканскага беларуса, а таксама дакумэнтаў сямейнага архіву Кіпеляў, які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў Менску.

Ва ўласнай прадмове да трэцяга выдання аўтар асабліва дзякуе тым асобам, якія дапамагалі ў працы над кнігай – архівісту Лявону Юрэвічу і свайму сыну Юрку Кіпелю.

"Беларусы ў ЗША" ўяўляюць сабой рэтраспэкцыю беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы ад XIX да пачатку XXI стагодзьдзя. Эмігранты-паўстанцы і ўдзельнікі масавых эміграцыі XX стагодзьдзя, ад першых беларускіх арганізацыяў да стварэньня разгалінаванай структуры сучаснай дыяспары. У кнізе прадстаўлены палітычная, сацыяльна-эканамічная, культурная сферы беларускага жыцьця ў ЗША: тэндэнцыі, арганізацыі й канкрэтныя значныя асобы. Асаблівая ўвага нададзена праблемам статыстыкі беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы, а таксама пытаньням сацыяльнай адаптацыі беларусаў у амэрыканскім грамадзтве.

Асноўны тэкст кнігі дапоўнены гістарыяграфічнай дасьледаваньнем Натальлі Гардзіенкі, у якім прадстаўлены вынікі вывучэньня розных аспэктаў гісторыі й сучаснасьці беларусаў у ЗША, пачатага Вітаўтам Кіпелем і працягнутага рознымі дасьледчыкамі ў 1990-х -2020 гг.

**Я. С.**

# Вітаўт Тумаш "Выбранае"

*Тумаш, Вітаўт. Выбранае / Укладанне Н. Гардзіенкі і Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2020. 544 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; Спадчына: агледзіны)*

У Менску пабачыла сьвет кніга выбраных працаў шматгадовага старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, дасьледчыка беларускай кніжнай культуры й дзейнасьці Францыска Скарыны, грамадзкага дзеяча Вітаўта Тумаша (1910—1998).




Выданьне мае чатыры прадмовы, напісаныя аўтарамі з розных краінаў. Нью-ёрскі архівіст Лявон Юрэвіч у сваім тэксьце аднаўляе дэталі біяграфіі Вітаўта Тумаша, менскі навуковец Генадзь Сагановіч разглядае ўнёсак Тумаша ў гістарычную навуку, а дасьледчыца, што жыве ў Францыі, Вольга Шутава паказвае значэньне й актуальнасьць скарыназнаўчых працаў амэрыканскага беларуса. У апошняй прадмове гісторык Натальля Гардзіенка робіць агляд архіўнай спадчыны Вітаўта Тумаша.

Асноўны зьмест кнігі падзелены на тэматычныя разьдзелы ў адпаведнасьці з кірункам тэкстаў Вітаўта Тумаша. У першым разьдзеле "Пытаньні этнагенэзу і культурнага разьвіцьця беларусаў" зьмешчаныя працы, прысьвечаныя паходжаньню беларускага этнасу й назову "Белая Русь", разнастайным уплывам беларусаў на польскую й расейскую культуры, выкарыстаньню беларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім і інш.

Найвялікшы другі разьдзел кнігі – "Жыцьцё й дзейнасьць Францыска Скарыны" складаецца з тэкстаў Вітаўта Тумаша, прысьвечаных розным аспэктам біяграфіі й спадчыны першадрукара. Дасьледчык вывучаў адметнасьці партрэтаў і ўжываньня імя Францыска Скарыны, геаграфію ягоных падарожжаў, акравершы і шмат якія іншыя моманты ягонага жыцьця. Адным зь першых аўтар агучыў ідэю паездкі першадрукара ў Маскву й паленьня там ягоных кнігаў, таксама адным зь першых прааналізаваў нававзнойдзеныя ў 1950-х гг. дакумэнты пра іспыты Скарыны ў Падуанскім унівэрсытэце, выказаў ідэю пра канфіскату ягоных кнігаў ва Ўроцлаве, паспрабаваў аднавіць апошнія дні жыцьця й працы на пасадзе садоўніка ў Празе й г. д.

У разьдзеле "Кніжная справа на Беларусі" зьмешчаныя артыкулы Вітаўта Тумаша, у якіх дасьледуюцца розныя выданьні Трэцяга Статуту ВКЛ, паходжаньне Сымона Буднага, першыя беларускія пэрыёдыкі ў XIX ст. Пад агульным назовам "Гісторыкі й творцы" аб'яднаныя ў кнізе працы пра творчасьць Адама Міцкевіча, гістарычную канцэпцыю Вацлава Ластоўскага ды скарыназнаўцу Антона Флароўскага. Таксама ў выданьні зьмешчаныя некалькі водгукаў і рэцэнзій Вітаўта Тумаша, з колькіх дзясяткаў, напісаных ім на беларусаведныя працы найпершы савецкіх навукоўцаў.

Завяршае кнігу тэкст дачкі Вітаўта Тумаша Яры "Пахвала майму бацьку".

Варта адзначыць, што знаходкамі Вітаўта Тумаша, асабліва ў скарыназнаўстве, актыўна карысталіся навукоўцы ў БССР, звычайна без пазнакі сапраўднага аўтарства. Як вынік, ягонае імя й спадчына так і застаюцца сёньня малаведамыя ў Беларусі. Хочацца спадзявацца, што прадстаўленае далёка ня поўнае выданьне навуковага даробку Вітаўта Тумаша паспрыяе вяртаньню й належнай ацэнцы працы гэтага дасьледчыка на Бацькаўшчыне.

**Я. С.**

# Гісторыя беларускага кнігадрукаваньня ва Ўкраіне

Нядаўна мне ўдалося знайсьці і купіць у антыкварнай краме сталічнай Прагі ў Чэшскай Рэспубліцы вельмі рэдкі і ўнікальны (накладам усяго 1000 асобнікаў!) украінскі часапіс "Бібліялягічныя Весткі" (№№1-3, 1924 г.), прысьвечаны пытаньням бібліяграфіі, бібліятэказнаўства, бібліяфіліі, выдавецтву і друку, і які, у прыватнасьці, у 1924 годзе быў таксама юбілейным і прысьвечаным 350-годзьдзю ўкраінскага кнігадрукаваньня (1574-1924 гг.).




І для мяне – славянафіла і беларусафіла, было цікавым і прыемным, што ў сшытку з трох нумароў "Бібліялягічных Вестак" 1924 году выданьня ёсьць таксама артыкулы, прысьвечаныя беларускаму кнігадрукаваньню, у прыватнасьці, Францішку Скарыне і цесным беларуска-ўкраінскім кнігадрукавальным стасункам, што пацьвярджае навуковы артыкул пад назваю "Скарына і пачатковае беларускае кнігадрукаваньне", які яшчэ раз сьведчыць аб цесных і даўніх беларуска-ўкраінскіх сяброўскіх культурных ўзаемаадносінах у мінулым, сёньня і, спадзяюся, заўсёды.

Пераклад гэтага артыкула з украінскага арыгіналу на беларускую мову падаю ў скарочаным варыянце без спасылак на крыніцы (якіх там 19):

*"Пераходзячы на поўнач славянскага сьвету, мы пасьля перапынку выдавецкай дзейнасьці Фіоля ня бачым прыкметаў друкаванай справы аж да вядомых выданьняў Францыска Скарыны ў першай чвэрці XVI стагодзьдзя.*

*Францыск Скарына, паходжаньнем з Полацка, доктар мэдыцыны, які атрымаў адукацыю ў Кракаўскім і Падуанскім унівэрсытэтах, пачаў выдавецкую дзейнасьць спачатку ў чэшскай Празе. Тут ён выдаў у 1517 годзе Псалтыр (у звычайным царкоўна-славянскім тэксце), распрацаваны, між іншым, для школьных патрэбаў, а затым з 1517 года і да 1519 года 22 выпускі асобных кніг Бібліі ў іх выбітным для свайго часу перакладзе на беларускую мову. Справу Скарыны за свой кошт падтрымаў віленскі грамадзянін Багдан Онкаў.*

*Біблійныя кнігі Скарыны выдаваліся ня ў тым парадку, у якім яны былі зьмешчаныя ў Бібліі: упершыню яны былі выдадзеныя ў 1517 г.; наступныя кнігі, трэба адзначыць, найбольш цікавыя па сваім філязофскім зьмесце. Перанёсшы сваю дзейнасьць у горад Вільню ў 1525 г. і заснаваўшы друкарню "Дом шаноўнага Якуба Бабіча", Скарына выдаў Апостала (першае друкаванае выданьне царкоўна-славянскага апостала і першую беларускую пячатку), а потым "Малую падарожную кніжыцу", што падобна да малітоўнай энцыкляпэдыі ў партатыўнай форме. Выдавецкая дзейнасьць Скарыны была спынена ў 1525 г. пазовам супраць яго сваякоў і іншымі непрыемнымі абставінамі.*

*Кнігі Скарыны лічацца лепшымі першымі царкоўна-славянскімі выданьнямі (не выключаючы сучасных венецыянскіх) і ўзроўнем вядомых нямецкіх выданьняў таго часу.*

*Акрамя выразнасьці і чысьціні арыгінальнага шрыфту, далікатнага фармату ў чатырох (а ў віленскіх выданьнях нават у восьмай і дванаццатай частках аркуша) кнігі Скарыны, асабліва ў Празе, адзначаныя вялікай колькасьцю майстэрскіх рытынаў на дрэве. У гэтым пляне публікацыі Скарыны звязаныя з чэскімі і нямецкімі мадэлямі, у прыватнасьці, з Аўгсбургскімі і Нюрнбергскімі. Асаблівы ўплыў аказала ілюстраваная нямецкая хроніка Шэдэля, выдадзеная ў 1483 годзе.*

*З пункту гледжаньня абрысаў літараў і правапісу публікацыі Скарыны залежаць ад царкоўна-славянскіх рукапісаў заходнерускай пісьменнасьці XV–XVI ст.*

*Хаця друкарская дзейнасьць Скарыны больш тэрытарыяльна звязаная зь Беларусьсю, але яна мела вялікае значэньне і для суседняй Украіны. Кнігі Скарыны шырока распаўсюджваліся на Ўкраіне, прывучалі насельніцтва да друку і рыхтаваліся да хуткага росквіту ўласнай украінскай друкарні. Іх старанна чыталі ва Ўкраіне на працягу некалькіх пакаленьняў. Іх ведаў вядомы ўкраінскі пісьменьнік XVI–пачатку XVII стагодзьдзя Іван Вышэнскі. Іх часта перапісвалі ва Ўкраіне. Сама тэрміналёгія друкаваных кнігаў, якія ў старажытнасці ва Ўкраіне называлі "зьбітымі" (каб адрозьніць іх ад рукапісаў), бярэ свой пачатак яшчэ з часоў Скарыны і яговых публікацыяў.*

*Кнігі Скарыны перайmaліся ў друку ў шэрагу наступных выданьняў XVI ст.: "Прымус Трубер" у Цюбінгене, Нямеччына (1561-1563), "Нясьвіжская друкарня" каля Слуцку ("Катэхізіс" 1562 г. і "Аб апраўданьні" таго ж году) і перасоўная "Друкарня Цяпінскага", якая выдала Эвангельле на беларускай мове каля 1570 г. Дзьве апошнія друкарні былі заснаваныя ў сувязі з прапагандаю пратэстанцкіх ідэяў. Дзякуючы прапагандзе каталіцкага папізму ў канцы XVI стагодзьдзя, у Ватыкане працавала Славянская друкарня. Згадка пра гэта – толькі дзьве няпоўныя старонкі з кнігі пра новы рымскі каляндар, выдадзены ў 1596 годзе. Цікава, што шрыфт гэтай кнігі імітуе Скарыну і старыя славянскія друкі, а ўкраінскі і беларускі ўжо маюць маскоўскі шрыфт".*

**Алег ПАЎЛІЎ**
Адмыслова для "Вестак і Паведамленьняў", Прага

## Уплаты ў Згуртаваньне

**Складкі й ахвяраваньні:**

**А. Ціхонічаў .............60**
**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"**
***Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Штомесячныя сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна давецаца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:*
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**А. Ціхонічаў ...............30**
**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*
*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***